# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 136


## ЯК РЫГОРКА СУСТРЭЎ ВЯСНУ

Сонца грэе, сонца свеціць,
Ціха ў класе сядзяць дзеці.
Слухаюць апавяданне
Аб вясне цудоўнай, ранняй.
А настаўніца чытае,
Нібы дзівы раскрывае,
Усё, як казка, як карціна,
Чараў поўная краіна,
Столькі красак і праменняў
Сыпнуў зямлі час вясенні...
Захапіўся клас урокам.
А Рыгорка сядзеў бокам,
Настаўляў паважна вуха,
Ды нічога нейк не слухаў.
Думкі адплылі далёка,
На вясенніх, на аблоках.
Так і марыў пакрыёму:
— Эх, звянок бы, і дадому...

Ледзь закончыліся ўрокі,
Ўжо бяжыць Рыгорка ўскокі.
Ўжо і ў хаце. Кінуў кніжкі,
Хлёбнуў супу мо тры лыжкі,
Шапку начапіў на вуха
І шыбнуў на двор: дзе суха,
Дзе балота, лёд, вада,
Не глядзіць «герой». Гайда!
Проста з хаты пад стадолу,
Пад стадолай — на дашок,
А з дашка спусціўся долу —
Проста бацьку на мяшок
І рассыпаў у лужу сечку...
Злуе бацька: — Чорт паднёс,
Адлупцую, як авечку!
А Рыгорка? — Гоп — на воз,
З возу проста на драбіну
І з драбінай... Грах! — на бок,
«Прызямліўся», шчасце хлопцу,
Дзе саломы быў кулёк.
Хоць ад болю трашчаць косці,
Як струна, Рыгорка ўстаў,
Каб хоць бацька, зноў, у злосці
Пугай не пачаставаў.

Так да самай цёмнай ночы
Наш Рыгорка бушаваў.
Як віхор, дзе неслі вочы,
Ні кутка не прамінаў.
А вярнуўшыся дадому,
Каб ніхто хлуды не даў,
Прашмыгнуўся пакрыёму
І ў пасцель пашыбаваў.

Спіць. І сніцца яму ўночы
(Быць бы вам ў такой бядзе):
Сумка, вытрашчыўшы вочы,
Усе кніжкі ў бой вядзе.
Нібы шаблі, звоняць пёры,
А алоўкі, як штыкі,
Паднялі іх грозна ўгору
Раззлаваныя сшыткі.
Наступае на Рыгорку
Тысячны пяцёрак рад.
Ён ад страху чуць не мёртвы,
Раптам... двоек з ім атрад!
Падступаюць на падлогу,
На прыцэл ужо ўзялі...
Як далі пяцёркі бобу —
Двойкі так і паляглі.
Страх і жах схапіў Рыгорку —
Абарону чорт пабраў.
Ён прысеў, нібы пад горку...
Пад абстрэл такі папаў...
Асляпіла бляскам вочы,
Нешта з лоба ўжо цячэ,
Тут...
прачнуўся ён, ускочыў —

Сонца праз вакно пячэ.
— Цьфу, ты — мара, гэта ж позна, —
Стаў Рыгорка наракаць.
Маці глянула сур'ёзна:
— Трэ' было раней устаць.
Мігам вопратку надзеўшы,
На падворак выбег «зух»,
Не памыўся, не паеўшы,
Цугаваў, ледзь лапаў дух.
Да званка у клас з'явіўся,
Выняў кніжкі... разлажыў...
За патыліцу схапіўся:
— Я ж урокаў не вучыў...

* ✲ *

За нядбайства, так і трэба,
Ўсім Рыгоркам, па вясне,
Двойкі сыплюцца, як з неба,
І на яве, і у сне.

**Софія Стаськевіч**



**Фота Цаф-Сянько**

**Софія Стаськевіч нарадзілася ў Бельску. Тут і закончыла Беларускі ліцэй. Цяпер працуе інструктарам ГП БГКТ на гарадскі аддзел у Беластоку. Друкавалася ў «Ніве» пад прозвішчам Зося Busловіч.**

* ✲ *

Не пытайся, чаму я з табою,
Як ліст з вярбою
вясною.
Не пытайся — каго кахаю?
Грудзі поўныя волава жалю
я маю.
Ты не пытайся ніколі,
Чаму спяваў я вясёла
ўчора
Толькі кажы — кахаю...
Адну цябе я маю
і знаю.

**Вераніка Леанюк**

**Новая рубрыка**




**В. Л. — Варшава.** — Вы пішаце многа. І гэта было б несумненна добра, калі б... Ёсць у Вас вершы напісаныя ў традыцыйнай форме. Такая сістэма вершаскладання патрабуе, апрача, зразумела, сэнсоўна ўложанай думкі — ідэі (і новай, непаўторнай!), фармальных канстантаў: рыфмы, рытму, цэзуры і г.д. Нельга, пішучы, напрыклад, катрэны, самавольна, змяняць рытміку верша. Параўнайце радкі з свайго верша «Асенні вечар». Які тут разнабой —!!!

Першы радок напісаны чатырохстопным няпоўным дактылем, а другі — трохстопным амфібрахіем і дактылем. Рытм розны.

Гэта ж тое самае, што адначасова спяваць «Зорку Венеру» і «Ой бярозы ды сосны».

Рыфмаванне ў традыцыйным вершаскладанні выпаўняе немалаважную функцыю і адмаўляцца ад яго нельга. А ці ж гэта рыфмы: подыхам — родам, месяц — лётаць, закінуў — закінуць? Рыфмаванне дзеясловаў (Вашыя: далятае — блытае, знікла — панікла, заносіць — просіць) лічыцца непаэтычным.

Трэба звяртаць таксама ўвагу на недалюблiваемую Вамі граматыку. Многа памылак! Многа дыялектызмаў. Няхай дыялектнае слова будзе часцінкай золата ў літаратурнай мове, а не наадварот.

І некалькі слоў аб т. зв. «сучаснай» сістэме вершаскладання. Вядома, што яна ахвотна адкінула рыфмаванне. Але арганізуючай моўны матэрыял адзінкай зноў з'яўляецца рытм. А Вы ад гэтага адступаеце. Чаму? «Сучаснае» вершаскладанне патрабуе вялікай адказнасці за слова. Трэба цаніць кожнае слова. Вы вельмі ж гаварлівая, і выходзіць проза. Дайсці да «сучасных сістэм» можна, грунтоўна ведаючы папярэднія. Веды па тэорыі неабходны. Жадаем поспехаў. Не забывайце пра нас.

**Н. А. — Варшава.** — Дзякуем за мілы ліст. Заахвочваем пісаць далей. Прысылайце нам матэрыялу больш і часцей. У прысланых Вамі «Калі ты маўчыш» і «Падае снег» няма паэтычнага агню.

**Эд. Яр. — Б-сток.** — Вашыя спасцярогі аб «Загснах» С. Яновіча не ўносяць нічога новага ва ўжо сказанае. Не выкарыстаем.



## АБ ПАЭЗІІ ЯНА ЧЫКВІНА

Вядома, што шлях для беларускай паэзіі на Беласточчыне пракладалі Алесь Барскі, Яша Бурш і Віктар Швед. У творчым гушчары кожны з іх знайшоў уласную сцяжынку.

У гэтай кампаніі паявіўся вось новы чалавек: Ян Чыквін, два зборнікі якога нядаўна выдала Галоўнае праўленне БГКТ.

Ён таксама пайшоў сваёй дарогай. Ад Віктара Шведа адрознівае яго больш глыбокае адчуванне і больш частае выкарыстанне метафары як асноўнага матэрыялу да пабудовы паэтычнага вобразу; Алесю Барскаму супрацьстаўляе ён спакайнейшы тон сваёй паэзіі; са сцяжынкай Яшы Бурша размінаецца сваімі прыхільнымі адносінамі да традыцыйнага паэзіятварэння, выпрабаванага пад пяром самых яснейшых зорак на небе гісторыі літаратуры.

Чаго тады Ян Чыквін шукае ў паэзіі, чым стараецца зацікавіць нашу ўвагу, якія вартасці і пачуцці хоча пасеяць у нашай свядомасці?

У першым зборніку, які аўтар назваў «Іду»*), знайшоў я нейкіх 20 вершаў (на 43 там змешчаных), якія занялі маю ўвагу, да якіх, напэўна, буду яшчэ вяртацца. Чыквін шукае слоў («Нам трэба слоў», стар. 9), якія проста, але праўдзіва і глыбока адлюстравалі б нашае жыццё, адкідае, гоніць прэч ад сябе словы «ліслівыя», «падманлівыя». Толькі гоніць іх неяк не вельмі рашуча. Часта, асабліва ў зборніку «Іду», здараецца, што аўтар паддаецца націску слоў, у якіх топіцца мастацкі эфект твора. Прыклады: у прыгожым вершы «А поўначы не спяць...» («Іду», стар. 41), які, напэўна, варта пакласці на музыку, лічу зусім непатрэбнай апошнюю страфу; сэнс і глыбокі настрой цудоўнага верша «Вячэрні госць» («Іду», стар. 43) псуюць, па-мойму, тры апошнія радкі; з разумнага і вельмі шчырага верша пра каханне («Іду са спаткання»...», стар. 56) я ахвотна выкінуў бы аж 20 слоў, а аставіў бы 19, узмоцніўшы такім чынам адчуванне шчырасці ў выяўленні пачуццяў.

У другім зборніку, які аўтар назваў «Святая студня», «перагавораных» твораў ужо амаль няма. Тут паэт праяўляе свядомую адказнасць за эканоміку слова, а такія вершы, як: «Паэзія» (стар. 9), «Даспелае сонца» (стар. 10), «Вяртанне», (стар. 13), «Партытура» (стар. 17), «Трывожная раніца» (стар. 27), паказваюць даволі шырокія магчымасці, якімі карыстаецца Ян Чыквін для кшталтавання са слоў сваіх паэтычных малюнкаў.

Асаблівай увагі з мастацкага пункту гледжання заслугоўваюць паэма «Беларуская дзяўчына» (зборнік «Іду», стар. 72) і цыкл санетаў (зборнік «Святая студня», стар. 33). Такога тыпу твораў дарэмна шукаць у зборніках іншых нашых «белавежцаў». Паэма «Беларуская дзяўчына» сваімі сямю часткамі-раздзеламі пераконвае нас, што спакойнае, сапраўднае шчасце можна знайсці сярод сваіх родных, блізкіх людзей.

А санеты?.. Гэта зусім іншая рэч. Ян Чыквін спакусіўся на высакародную справу: напісаў свае «крымскія» санеты, якія яўна адгукваюцца на вядомы шэдэўр гэтага роду ў польскай літаратуры. Дакладна ацаніць вынікі гэтай спробы тут немагчыма, бо дзеля гэтага неабходна правесці падрабязны параўнаўчы аналіз. Агульна можна сказаць, што аўтар даў нам твор дакладна прадуманы і скампанаваны ў адну неразрыўную цэласць. Ды і сэнс яго вельмі глыбокі.

Героем твораў Яна Чыквіна, яго тыпам, які перадае нам свае пачуцці, з'яўляецца інтэлігент беларускага паходжання, свядомы сваей нацыянальнай прыналежнасці, чалавек загублены ў шматлюднай ананімнасці вялікага горада. Адчувае ён толькі тады поўную свабоду і шчасце, калі вяртаецца ў сваё вясковае, падпушчанскае дзяцінства, калі дарослым ужо знойдзецца там, дзе шырокія над Нарвай лугі.

Паэзія Яна Чыквіна, як сучаснае нашае жыццё, плыве спакойна праз старонкі яго абодвух зборнікаў. Не чуваць у ёй стыхійных грымот, няма ў Чыквіна вершаў, якія закранулі б за «жывое», адазваліся б гневам, заныл б бязвыхадным болем. Творы яго прывуцюжаны і прычэсаны, адлюстроўваюць малы рэалізм нашай сучаснасці.

І яшчэ варта адзначыць выдавецкія якасці абодвух зборнікаў. Іх тэхнічнае і графічнае афармленне трэба лічыць важным дасягненнем у выдавецкай дзейнасці БГКТ. Гэтых зборнікаў не пасароміцца аніводная кніжная вітрына ў любым горадзе. Гэта заслуга таленту беластоцкага (нашага, нівацкага) мастака Стэфана Рыб'ята.

**Віктар Рудчык**

*) Ян Чыквін, «Іду» і «Святая студня» — зборнікі вершаў на беларускай мове. Выдавецтва Галоўнага праўлення БГКТ, Беласток, 1969—1970 гады, тыраж па 2000 экз. кожны са зборнікаў. Абодва зборнікі падрыхтавала да друку рэдактар Яніна Чэрнякевіч.



**Дэбют**

## Ой, ЛЯЦЕЛІ ГУСІ

Ой, ляцелі гусі
Грайце
Завіруйма ў танцы
Мы ўбачым іх крылы
Вялікія
Недасяжныя
Дайце нам гэтыя крылы
Мы ўзляцім
Над шырокім прасторам
Будзем смяяцца
Які наш свет малы
І калі
Упадзем
На зямлю чорную
Мы ўбачым
Свет
Вялікі
І мы без крылаў
Дзе яны?
Гусі забралі...
Ой, ляцелі гусі...

**Надзея Артымовіч**



Пачатак на стар. 1

## ЗАПРАШЭННЕ ДА СПРЭЧАК

Вельмі часта прыходзілася прасіць і заахвочваць да выступлення на старонках «Нівы». А вось ад гаспадара павета, ад старшыні прэзідыума ПРН у Гайнаўцы нягледзячы на шматразовае запрашэнне, так мы і не дачакаліся голасу ў так істотнай справе для павета. Гэтая абыякавасць, гэты песімізм («а што гэта паможа?») стаецца амаль што сімвалічны.

Ці трэба тады лічыць, што нівяўская дыскусія была няўдачнай, што пераўтварылася яна ў пустое адштурхванне на паперы мяча, папэцканага балотам адсталасці?

Не нам адказваць на гэтае пытанне. Усё залежыць ад таго, ці партыйнае і дзяржаўнае кіраўніцтва Гайнаўскага павета захоча ўважна прасачыць усе выказванні, ці знойдуць яны ў гэтых галасах нейкія новыя, пладатворныя думкі і цікавыя прапановы, якія можна прымяніць на практыцы.

На старонках «Нівы» свае думкі выказала 7 чалавек. Людзі гэта розныя па прафесіі і па адукацыі. З усіх іх выказванняў вынікае адна асноўная думка: **Гайнаўшчына не мусіць быць апошняй у ваяводстве, яна мае шансы хутка ўзняць з гаспадарчага заняпаду сваю сельскую гаспадарку.**

І ўжо хаця б дзеля гэтай думкі варта было правесці нашую дыскусію.

Ліквідацыя цераспалосіцы, асушка балота і загаспадараванне сенажацяў, поўная электрыфікацыя вёсак і механізацыя самых цяжэйшых палявых і дамашніх работ стварае так званую матэрыяльную аснову для далейшага прагрэсу ў сельскай гаспадарцы. Усе гэтыя працэсы зараз на Гайнаўшчыне ў поўным разгары. Праз 3—5 год будуць закончаны. Гаспадаранне на Гайнаўшчыне прыме тады новую структуру. Толькі да гэтай новай структуры неабходна дастасаваць псіхіку гаспадароў, неабходна іх навучыць, як павінны гаспадарыць пры новых умовах, калі конь, плуг і саламяная каробка сталіся далёка недастатковымі элементамі сельскай гаспадаркі. Гэты вывад таксама вынікае з выказванняў дыскутантаў.

А ўжо ў кожным артыкуле паўтаралася на розныя спосабы праблема штучных угнаенняў. Усе згодна бачаць у іх асноўную крыніцу хуткага павышэння ўраджаю. Толькі зноў бяда: аказваецца, што не хопіць проста прымяняць высокія дозы штучных угнаенняў, але трэба ведаць, як і калі іх прымяняць. Дык зноў вяртаемся да прадуцэнта. **Значыць, трэба вучыць і вучыцца.** Гэта другі асноўны вывад з нашай нівяўскай дыскусіі.

Заяўляем усім, што мы яе не спыняем, што з задавальненнем вітаць будзем кожную каштоўную думку, якая дапамагла б нашым сялянам (не толькі ў Гайнаўскім павеце) лепш ладзіць сваю цяжкую працу. Не будзе толькі ўжо гэта дыскусія на тэму «чаму Гайнаўшчына апошняя», бо Гайнаўшчына не мусіць і не павінна быць апошняй.

**В. Рудчык**

## ГУРТОК З СЕМЯНОЎКІ



Пачынае праграму Марыя Вілюк.



Яўгенія Бірыцкая і Янка Шыманюк у «Прымаках».



Рышард Казберук чытае верш «Мая жонка».



Салістка Аляксандра Аніскевіч.



Міхась Аніскевіч чытае верш В. Шведа «Гаспадары».



Галіна Засім і Янка Бірыцкі ў «Любоўным дыялагу».

Адным з найбольш актыўных гурткоў БГКТ у Гайнаўскім павеце з'яўляецца гурток з Семяноўкі. Супольна з мясцовай арганізацыяй Саюза вясковай моладзі разгарнуў ён шматлікія формы дзейнасці. У апошні час узбагаціліся яны стварэннем калектыву мастацкай самадзейнасці. Гэты калектыў, якім кіруе настаўніца Марыя Вілюк, у адносна кароткім часе, падрыхтаваў вельмі цікавую дзвюхгадзінную праграму. Упершыню паказана яна была на вечарніцы, прысвечанай міжнароднаму дню жанчын, што адбылася 7 сакавіка г.г. у грамадскай святліцы ў Семяноўцы.

Найцікавейшай часткай праграмы, несумненна, з'яўляецца п'еса Янкі Купалы «Прымакі». Высокі ўзровень пастаноўкі сведчыць аб вялікіх здольнасцях членаў калектыву. Апрача п'есы ў праграме ёсць скетчы, гумар і беларускія песні. Сярод салістак выдзяляюцца Марыя Вілюк, Аляксандра Аніскевіч і Яўгенія Бірыцкая.

Тэкст і фота **Віктар Бура**

Пачатак на стар. 1

## НЕПАТРЭБНЫЯ

Не ў гэтым аднак справа. Прысутныя ў пункце грамадскага апекуна стаяць перад сапраўднай праблемай: што зрабіць з дэбількай і ёй падобнымі псіхічна недаразвітымі жыхарамі Беластока? Пастаянную дапамогу можна даць толькі ў выпадку, калі лекары прызнаюць І ступень інвалідства. Лекары гэтага не прызнаюць. Псіхічна недаразвітыя могуць яшчэ працаваць. Але дзе? Хто іх прыме да працы?

Нашую «кліентку» нават прынялі. Працавала штосьці з месяц часу ў дайлідскім бровары ўборшчыцай. Потым звольнілі яе з працы, прысылаючы ў асяродак доўгае паясненне: звольнілі, моў, бо падапечная ўсё забывае, губіць ключы, не разумее многіх указанняў, сварыцца і г.д. Мелі рацыю. Установа патрабуе парадку. Але што рабіць з калекай?

Грамадскі апякун Францішка Арлінская, якая апекуецца дэбількай, расказвае:

— Мне яе сапраўды шкада; сядзе часам і гаворыць з сумам: «Чаму ж гэта я такая нешчаслівая? — Чаму я не маю розуму, як іншыя людзі?»

Апякун — жанчына з добрым сэрцам. Карміла падапечную, чым магла, шэраг месяцаў, не чакаючы аніякай за гэта ўзнагароды.

Пасля доўгіх стаnнняў пункта грамадскай апекі дэбільцы, пра якую расказваем, удалося нарэшце назначыць пастаянную фінансавую дапамогу. Яе справу можна лічыць закончанай. Але незакончанай з'яўляецца справа апекі над псіхічна хворымі і недаразвітымі людзьмі — асабліва ў рухлівым гарадскім грамадстве.

**У. Паўлючук**




Нацыянальнае пытанне прыцягвала ўвагу многіх даследчыкаў. Але буржуазныя вучоныя да гэтай справы падыходзілі з пункту гледжання буржуазіі і заўсёды абаранялі нацыянальную палітыку імперыялістычных дзяржаў.

Першымі, хто па-навуковаму падыйшоў да нацыянальнага пытання, былі К. Маркс і Ф. Энгельс. Іх доследы прадоўжыў Ленін. Глыбока даследаваўшы гістарычныя ўмовы ўзнікнення нацый, заканамернасці іх фарміравання, ён устанавіў дзве тэндэнцыі ў нацыянальным пытанні. Сутнасць першай заключаецца ў абуджэнні нацыянальнага жыцця і нацыянальных рухаў, барацьбе супраць усялякага прыгнёту, стварэнні нацыянальных дзяржаў. Сутнасць другой — у развіцці міжнацыянальных сувязей, ломцы нацыянальных перагародак, стварэнні адзінай эканомікі. Абедзве гэтыя тэндэнцыі прагрэсіўныя, але сацыяльныя ўмовы капіталізму надаюць іх дзеянню пачварны напрамак. Другая тэндэнцыя рэалізуецца шляхам нацыянальных грабяжоў і падпарадкавання адных народаў другімі, узмацняючы і нацыяналізм і нацыянальныя рухі зняволеных народаў. Супярэчнасць паміж дзвюма тэндэнцыямі ў развіцці нацый пры капіталізме непрымірымая.

У. Ленін падыходзіў да вырашэння нацыянальнага пытання з улікам указаных аб'ектыўных тэндэнцый. З мэтай нармальнага развіцця працэсу кансалідацыі нацый Ленін выставіў патрабаванне поўнай іх роўнасці, рашучай барацьбы супраць прывілегій адной нацыі і парушэнняў правоў нацыянальных меншасцей. Прынцып раўнапраўя нацый У. Ленін у роўнай ступені адносіў як да народаў, якія склаліся ў нацыю, так і да народаў, якія не склаліся, незалежна ад расы, тады як апартуністы ў асноўным прымянялі яго толькі да нацыі «белай расы».

У. Ленін адстайваў права нацый на самавызначэнне аж да аддзялення. У адрозненне ад ідэолагаў буржуазіі, якія тлумачаць права нацый на самавызначэнне толькі як права пануючай нацыі па свайму меркаванню вызначаць лёс прыгнятаемых ёю народаў, Ленін указваў, што кожная нацыя сама, свабодна, без насілля і націску павінна вызначыць свой лёс: ці заставацца ёй на тых ці іншых раўнапраўных асновах, у саставе цэнтралізаванай дэмакратычнай дзяржавы, ці выйсці з яе саставу і ўтварыць самастойную дзяржаву. Без гэтага права на раўнапраўе Ленін лічыў фікцыяй.

Побач з абаронай раўнапраўя нацый, іх самавызначэння, У. Ленін у той жа час адстайвае прынцып інтэрнацыяналізму, непрымірымай барацьбы супраць заражэння пралетарыяту нацыяналізмам. У нацыянальных рухах Ленін прызнае толькі іх прагрэсіўны бок, г. зн. абуджэнне мас ад феадальнай спячкі, іх барацьбу супраць усялякага нацыянальнага прыгнёту, за суверэннасць народа, суверэннасць нацыі. Ленін лічыў безумоўным абавязкам для марксіста адстайваць самы рашучы і самы паслядоўны дэмакратызм ва ўсіх частках нацыянальнага пытання. Значыць, падтрымка нацыянальных рухаў абмяжоўваецца падтрымкай толькі да таго часу, пакуль яны разбураюць аджыўшы феадальны лад. Пралетарыят не павінен падтрымліваць дзейнасці буржуазіі, якая імкнецца да ўмацавання нацыяналізму.

Глыбока прааналізаваўшы вопыт грамадскага развіцця апошняй чвэрці XIX стагоддзя і першага дзесяцігоддзя XX стагоддзя, У. Ленін даказаў, што ва ўмовах імперыялізму нацыянальнае пытанне з унутрыдзяржаўнага ператварылася ў міждзяржаўнае, у сусветнае, паколькі, па-першае, жменька «вялікіх дзяржаў» насільна захапіла і трымала ў каланіяльнай залежнасці велізарную большасць насельніцтва зямнога шара, і, па-другое, эксплуатацыя калоній стала адной з крыніц штучнай затрымкі падзення капіталізму наогул, а прапаганда нацыяналізму, пераваг «белай расы» — адной з састаўных частак буржуазнай ідэалогіі.

У. Ленін даказаў, што пры імперыялізме нацыянальны прыгнёт расшырыўся і абвастрыўся. У выніку немінуча паглыбляецца непрымірымы антаганізм паміж зняволенымі народамі калоній і паўкалоній і манапалістычным капіталам метраполій, узмацняецца барацьба прыгнечаных народаў супраць імперыялізму.

Наперакор «левым» і «імперыялістычным эканамістам», якія супрацьпастаўляюць барацьбу за права нацый на самавызначэнне і рэвалюцыйную ба-

